[20] Гл.: Снапкоўскі У. Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі : вучэб. дапам. для студэнтаў фак. міжнар. адносін : у 2 ч. Мінск, 2003. Ч. 1 : Ад пачаткаў дзяржаўнасці да канца XIII ст.

[21] Гл.: Тарас А. Е. Войны Московской Руси с Великим Княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV–XVII веках. М. ; Минск, 2013 ; Чаропка В. Геркулес, Руды і Пярун (Радзівілы-пераможцы). Мінск, 2014 ; Яго ж. Лёсы ў гісторыі : нарысы. Мінск, 2005.

[22] Гл.: Пашкевіч У. І. ВКЛ у Паўночнай вайне (1700–1721) // Беларус. гіст. часоп. 1995. № 3. С. 163–171 ; Яго ж. Беларусь у Паўночнай вайне і паглыбленне палітычнага крызісу ў першай палове XVIII ст. // Гісторыя Беларусі : у 6 т. 2007. Т. 3. С. 104–119 ; Яго ж. Адлюстраванне падзей Паўночнай вайны ў актавых кнігах Аршанскага гродскага суда // Северная война 1700–1721 гг. и исторические судьбы Европы: к 300-летию со дня битвы при д. Лесная. Могилев, 2008. С. 208–217.

[23] Гл.: Віцько Д. В. Міжусобная барацьба магнацкіх груповак у Вялікім княстве Літоўскім у канцы XVII – пачатку XVIII ст. : аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук : 07.00.02. Мінск, 2007.

[24] Гл.: Анішчанка Я. К. Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мінск, 2003.

[25] Гл.: Мацук А. У. Барацьба магнацкіх груповак у ВКЛ (1717–1763 гг.). Мінск, 2010.

Паступіў у рэдакцыю 16.09.2014.

***Алена Васільеўна Дземідовіч*** – кандыдат гістарычных навук, старшы выкладчык кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў.

*УДК 902/904(476):930(476)«18»+39(476):930(476)«19»*

*Г. А. КАРПЕЧАНКА*

# НАВУКОВЫЯ СУВЯЗІ КАНСТАНЦІНА І ЯЎСТАФІЯ ТЫШКЕВІЧАЎ З ТАВАРЫСТВАМ АМАТАРАЎ ПРЫРОДАЗНАЎСТВА, АНТРАПАЛОГІІ І ЭТНАГРАФІІ

Рассматриваются научные связи Константина и Евстафия Тышкевичей с Обществом любителей естествознания, антропологии и этнографии. Описываются результаты археологических и этнографических исследований, проводимых братьями Тышкевичами, которые были переданы обществу. Археологические находки и этнографические материалы были представлены на Русской этнографической выставке 1867 г. Общество любителей естествознания, позже названное Обществом любителей естествознания, антропологии и этнографии, высоко ценило деятельность братьев Тышкевичей в области археологии и этнографии. Свидетельством тому может служить переписка Константина Тышкевича с вышеуказанным обществом. Также коротко рассматривается история создания Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии.

***Ключевые слова:*** Константин Тышкевич; Евстафий Тышкевич; Общество любителей естествознания, антропологии и этнографии; Русская этнографическая выставка 1867 г.; археологические раскопки; этнографические исследования; Минский губернский статистический комитет.

This article discusses scientific communication Konstantin and Eustachy Tyszkiewicz with the Society of enthusiast of natural science, anthropology and ethnography. Describes the results of archaeological and ethnographic research, conducted by the brothers, and which were transferred to the Society. Archaeological and ethnographic materials were presented at the Russian ethnographic exhibition of 1867. Society of enthusiast of natural science, later called the Society of enthusiast of natural science, anthropology and ethnography highly valued activity brothers Tyshkevich in archaeology and ethnography. Evidence of this can serve as a correspondence Konstantin Tyszkiewicz with the above society. Also briefly discusses the history of the Society of enthusiast of natural science, anthropology and ethnography.

***Key words:*** Konstantin Tyszkiewicz; Eustachy Tyszkiewicz; the Society of enthusiast of natural science, anthropology and ethnography; Russian ethnographic exhibition of 1867; archaeological excavation; ethnographic research; Minsk provincial statistical committee.

У XIX ст. на Беларусі з’яўляецца шэраг даследчыкаў, якія ствараюць навуковы падыход да вывучэння этналогіі, археалогіі, гісторыі. Сярод іх былі Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы з Лагойска. Браты займаліся археалагічнымі раскопкамі, зборам этнаграфічных звестак і фальклору, распрацоўкай музейнай справы. Яны імкнуліся не толькі да збору матэрыялу, але і да яго абагульнення, падвядзення вынікаў, стварэння метадалогіі. Сваёй навуковай дзейнасцю і значнымі дасягненнямі браты праславіліся як у родным краі, так і за яго межамі. Яны былі членамі шэрагу навуковых таварыстваў Вільні, Масквы, Рыгі, Парыжа, Лондана.

Таварыства аматараў прыродазнаўства пры Імператарскім Маскоўскім універсітэце было заснавана ў 1863 г.[1] і мела на мэце «изыскание средств, могущих содействовать распространению естествознания в России»[2]. Акрамя гэтага, праграма таварыства прадугледжвала правядзенне экскурсій, збор прыродазнаўчых і гістарычных рэчаў, распрацоўку дапаможнікаў па складанні калекцый для тых, хто займаецца прыродазнаўствам, давала паясненні ўніверсітэцкім зборам. У склад таварыства ўваходзілі знакамітыя, таленавітыя навукоўцы. Прэзідэнтам яго быў прызначаны прафесар геалогіі Г. Я. Шчуроўскі, віцэ-прэзідэнтам – прафесар матэматыкі А. Ю. Давідаў, сакратаром – захавальнік заалагічнага музея М. К. Зенгер. На чацвёртым пасяджэнні таварыства было прапанавана стварыць аддзел антрапалогіі, на чале якога адзін з заснавальнікаў таварыства А. П. Багданаў прапанаваў паставіць археолага Д. П. Сонцава[3]. Праз некалькі гадоў сваёй дзейнасці яно змяніла назву і стала Імператарскім таварыствам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. Таварыства займалася распрацоўкай праграм па збіранні этнаграфічных звестак і юрыдычных звычаяў[4]. З 23 красавіка па 19 чэрвеня 1867 г. яно праводзіла этнаграфічную выставу ў манежы ў Маскве[5]. На ёй былі прадстаўлены 288 манекенамі амаль усе народнасці ўсходніх, заходніх і паўднёвых славян з рэчамі іх побыту, 900 іншых этнаграфічных экспанатаў, каля 300 археалагічных знаходак, 600 чарапоў. Выставу наведваў імператар Аляксандр II з сям’ёй. Яна з’явілася падставай для правядзення славянскага з’езда і стварэння першага этнаграфічнага музея ў Маскве. Таварыства таксама праводзіла ў 1879 г. Маскоўскую антрапалагічную выставу[6]. Дзейнасць яго мела прагрэсіўны характар і спрыяла значнаму развіццю прыродазнаўчых навук у Расіі.

Канстанцін Тышкевіч амаль адразу пачаў наладжваць сувязі са створаным у 1864 г. антрапалагічным аддзяленнем Таварыства аматараў прыродазнаўства. Канстанцін даслаў у антрапалагічнае аддзяленне сваю кнігу «О курганах в Литве и Западной Руси»[7], замалёўку з хатняга побыту Мінскай губерні[8], а ў 1867 г. – калекцыю шкілетаў і чарапоў разам са знойдзенымі пры іх у курганах рэчамі (каменныя тапары, молаты, бронзавыя каралі, бранзалеты, пярсцёнкі, завушніцы, ланцужкі, розныя шкляныя каралі, званочкі, зашпількі ад паясоў і рэшткі тканін) і са складзеным альбомам, які змяшчаў малюнкі курганоў[9]. Альбом і знаходкі былі прадстаўлены ў аддзелах антрапалогіі і археалогіі на Рускай этнаграфічнай выставе, куды распарадчы камітэт запрасіў і яго складальніка: «…пользуясь постоянным внимательным содействием Вашего Сиятельства при выполнении своей задачи считает долгом в настоящее время по случаю предстоящей на Святой неделе открытия выставки, обратиться к Вашему Сиятельству с покорнейшей просьбой почтить ее Вашим посещением»[10]. Выстава карысталася вялікай папулярнасцю, а перададзены матэрыял К. Тышкевіча выклікаў зацікаўленасць і пашану да навукоўца. Ён атрымаў ганаровую ўзнагароду другой катэгорыі, якая прысуджалася асаблівым распараджэннем таварыства за аказанне найбольш важных паслуг па арганізацыі выставы і па складанні калекцый[11]. Ужо пасля смерці К. Тышкевіча чарапы і шкілеты экспанаваліся на іншай выставе, якую праводзіла таварыства, а менавіта на Маскоўскай антрапалагічнай выставе 1879 г.[12]

Удзел у выставе 1867 г. быў вынікам плённай папярэдняй працы. А за тры гады да гэтага ён стаў правадзейным членам Мінскага губернскага статыстычнага камітэта, аб чым К. Тышкевіч пісаў: «Письмо Вашего Превосходительства от 30 марта за № 163 я имел честь получить. Снискав моими трудами признательность многих ученых Европейских обществ, которых я состою членом, со всею готовностью и благодарностью принимаю предложенное мне звание действительного Члена Минского Статистического Комитета, так как это звание доставит мне возможность трудиться еще на отечественном поприще, для пользы науки и моего родного края»[13]. У папярэднім лісце Мінскага губернскага статыстычнага камітэта да К. Тышкевіча пазначалася: «Действительные члены избираются из лиц, могущих своими познаниями и опытностью принести пользу Комитету и изъявляющих готовность участвовать в занятиях его своими статистическими трудами»[14]. Мінскі губернскі статыстычны камітэт таксама меў дачыненне да арганізацыі выставы 1867 г., аб чым сведчыць яго ліст да міравога пасрэдніка 2-га ўчастка Барысаўскага павета: «Общество Любителей Естествознания при Императорском Московском Университете, с Высочайшего соизволения, предложило открыть в Москве, весной 1867 года, русскую этнографическую выставку, с тем, чтобы по окончанию ее все выставленные предметы пожертвовать в учрежденный в Москве русский центральный этнографический музей. На выставку эту предположено собрать до 300 фигур в человеческий рост, выражающих представителей различных племен, в их оригинальных костюмах, и составляющих собою группы, охарактеризованные главными особенностями их быта. Председатель Распорядительного Комитета выставки Г. Дашков, принимая во внимание, что предприятие это, по его обширности, не может быть выполнено иначе, как при содействии Правительства и образованной публики, письмом 8 августа за № 95 обратился ко мне с просьбой – оказать свое содействие к собранию в пределах Минской губернии и к доставлению на выставку местных этнографических предметов»[15]. У сваю чаргу міравы пасрэднік звярнуўся да К. Тышкевіча: «Препровождая при сем отзыв Минского Губернского Статистического Комитета от 9 февраля за № 54, имею честь просить, не угодно ли Вам будет представить что-либо на выставку из своего Музея древностей»[16].

У 1866 г. К. Тышкевіч разам з мастаком Лубнеўскім праводзілі антрапалагічныя даследаванні ў маёнтку Дудзічы Ігуменскага павета, аб чым пазначалася ў пасведчанні: «Предъявитель сего Член Московского Антропологического общества Граф Константин Тышкевич следует с художником, Минским мещанином Лубневским, в м. Дудзичи Игуменского уезда для ученых исследований по части антропологической. В удостоверение чего и для свободного пребывания в месте исследований дано сие свидетельство Графу Тышкевичу за надлежащим подписом с приложением печати. Августа 9 дня 1866 года»[17]. Трэба адзначыць, што ў пасведчанні К. Тышкевіч ужо названы членам таварыства, хоць у іншых крыніцах, як, напрыклад, білет сапраўднага члена Таварыства аматараў прыродазнаўства[18], пазначаны 1867 г.

Таварыства аматараў прыродазнаўства высока цаніла дзейнасць К. Тышкевіча і ў лісце, датаваным 6 лютага 1867 г., паведамляла: «Общество Любителей Ест. сост. при ИМУ по предложению Антр. отделения своего и на основании § 7 сборника постановлений избрало Вас в заседании 2-го февраля единогласно своим Действительным Членом. Почтенное и просвещенное содействие, оказанное Вашим Сиятельством обществу, дало ему право избрать Вас в звание Действительного Члена помимо звания Кандидата, установленного для всех членов…»[19] Разам з лістом таварыства даслала ўстаў і збор пастаноў. На што К. Тышкевіч адказаў: «Позвольте господа заявить Вам мою искреннюю благодарность за эту честь, мне сделанную, и вместе с тем выразить усердное желание разделить с Вами труды, предпринятые для пользы науки. Все средства, которыми могу располагать, я завсегда готов употребить к услугам достопочтенного общества»[20]. У распісцы ад 4 сакавіка 1867 г. пазначаецца, што граф Тышкевіч перадаў таварыству 13 рублёў[21], што, верагодна, было членскім узносам, аб якім пазначалася ў квітанцыі № 34 касы таварыства[22]. Акрамя гэтага, Таварыства аматараў прыродазнаўства дасылала К. Тышкевічу свае выданні, аб чым можа сведчыць адзін з лістоў ад Д. П. Сонцава: «Имею

честь препроводить при сем Вам, Милостивейший Государь, первый том Известий Антропологического Отделения Общества Любителей Естествознания, состоящего при Императорском Московском Университете, о получении которого покорнейше прошу почтить меня уведомлением»[23].

Нельга не звярнуць увагу і на той факт, што ў гэты час стан здароўя К. Тышкевіча пагаршаўся, верагодна, ён ужо пачаў страчваць зрок[24], наўрад археалагічныя раскопкі даваліся яму лёгка. Мабыць, у гэты перыяд жыцця навуковец абагульняў назапашаны вопыт, рабіў вынікі з сабранага раней матэрыялу, праводзіў этнаграфічныя даследаванні. Навуковыя сувязі К. Тышкевіча і Таварыства аматараў прыродазнаўства працягваліся б і далей, калі б не смерць беларускага даследчыка 13 ліпеня 1868 г. Аднак і той невялікі адрэзак часу навуковага супрацоўніцтва (1864–1868) садзейнічаў развіццю навуковых сувязей паміж прадстаўнікамі інтэлігенцыі Беларусі і Расіі.

Малодшы брат Канстанціна – Яўстафій таксама падтрымліваў навуковыя сувязі з Таварыствам аматараў прыродазнаўства. Ён стаў правадзейсным членам раней – 24 лютага 1865 г. – за ахвяраванне прыродазнаўчых рэчаў і кніг[25].

Яўстафій Тышкевіч, як і старэйшы брат, перадаў экспанаты на Рускую этнаграфічную выставу 1867 г. На сёмым пасяджэнні камісіі выставы ад 25 жніўня 1865 г. заснавальнік таварыства А. П. Багданаў прапанаваў звярнуцца з просьбай да Я. Тышкевіча аб дастаўцы апошнім курганных рэшткаў і рэчаў Літоўскай губерні[26], на дваццаць другім пасяджэнні камісіі выставы ад 22 чэрвеня 1866 г. дырэктар аддзялення антрапалогіі Д. П. Сонцаў паведамляў аб намеры графа Тышкевіча перадаць калекцыю літоўскіх музычных інструментаў і літоўскіх чарапоў[27]. Я. Тышкевіч здзейсніў свой намер і прынёс у дар выставе зроблены ў 1797 г. кункл (гуслі), дзве лумждзе (флейты), скаўдучай (дванаццаць флейт, ці флейта Пана), бірбінію (дуда), трубу з бярэсты. А за дасланы літоўскі касцюм і рэчы хатняга побыту літоўцаў (шчыпцы для арэхаў, нож, лапці з ліпы, крэсіва, капшук, мадэль жылой пабудовы) ён быў узнагароджаны бронзавым медалём[28]. Усе рэчы былі з мястэчка Біржы. Пасля выставы экспанаты былі перададзены ў Дашкоўскі этнаграфічны музей, а пазней увайшлі ў склад Расійскага этнаграфічнага музея. Музычныя інструменты, табакерка для нюхальнага тытуню, галоўкі курыльных трубак і некаторыя іншыя рэчы, ахвяраваныя Яўстафіем Тышкевічам, таксама былі прадстаўлены на выставе «Старая Літва»[29], якая адбылася ў 2009 г. у Вільнюсе і прысвячалася 1000-годдзю першага ўзгадвання Літвы ў заходнееўрапейскіх хроніках. Яна змяшчала рэчы, звязаныя з літоўскай народнай культурай. Арганізатары выставы асабліва падкрэслівалі каштоўнасць перададзеных Тышкевічам экспанатаў.

У нататцы, прысвечанай арганізацыі Рускай этнаграфічнай выставы 1867 г., была змешчана цытата з запіскі Я. Тышкевіча, дасланай Маскоўскаму археалагічнаму таварыству. У ёй азначана мэта выставы – «представить наглядную картину домашней жизни, нравов и обычаев всех племен, населяющих российскую империю»[30], і пажаданне, каб выстава стала падмуркам для музея, аб якім Я. Тышкевіч пісаў: «Каждый из славянских народов охотно прислал бы из своих собраний, кроме предметов, имеющих собственно этнографическое значение, еще предметы археологические и антропологические. Собрание разных курганных выкопок, утвари, оружия и т. п. из каменного, бронзового и железного периодов; собрание черепов всех племен, исторические достопамятности, портреты знаменитейших славянских деятелей, виды и планы древних замков, городищ, храмов и т. д., примечательнейшие библиографические редкости, автографы и пр. пр., – такое, говорим, собрание составило бы неоценимую сокровищницу славянского мира, закрепило союз племенного родства и братства»[31]. Пры музеі можна было б стварыць бібліятэку, у склад якой увайшлі б кнігі на ўсіх славянскіх мовах, і мастацкую галерэю.

У гэты перыяд Я. Тышкевіч цяжка перажываў разбурэнне свайго асноўнага дасягнення – Віленскага музея старажытнасцей. Але і ў той час, і пасля яго Яўстафій знайшоў сілы для працягу даследчай дзейнасці і не страціў жаданне служыць навуцы. У той час яго навуковыя інтарэсы засяродзіліся на біржах. Вынікам яго даследаванняў таксама былі працы «Birże. Rzut oka na przeszłość miasta, zamku i ordynacyi», «Postrzeżenia nad składem geognostycznym Birż» і г. д.

Такім чынам, другая палова 1860-х гг. для Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў не была адназначнай. З аднаго боку, яны перажылі шэраг удараў лёсу. Але гэта не зламала іх. Браты Тышкевічы працягвалі плённую навуковую дзейнасць і падтрымлівалі сувязі з айчыннымі і замежнымі навуковымі таварыствамі. Адным з іх было Таварыства аматараў прыродазнаўства, якое даволі высока цаніла іх уклад у развіццё этнаграфіі і археалогіі і лічыла за гонар прыняць братоў Тышкевічаў у лік сваіх членаў. Гэта спрыяла станоўчаму развіццю навуковых сувязей паміж беларускімі і расійскімі навукоўцамі. Сведчаннем таму можа служыць перапіска Канстанціна Тышкевіча з Таварыствам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. Вынікі гэтых сувязей актуальны і ў цяперашні час. Прыкладам можа служыць выстава «Старая Літва».

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Пятидесятилетие Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии: 1863–1913 : торжественное заседание 15 октября 1913 г., произнесенные на нем речи, полученные к этому дню приветствия и происходившее одновременно чествование 70-летия жизни президента Общества Дмитрия Николаевича Анучина / сост. В. В. Богданов. М., 1914. С. 5.

[2] Там жа. С. 7.

[3] Там жа. С. 8.

[4] Гл.: Программа для собирания этнографических сведений, составленная при Этнографическом отделе Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. М., 1887. С. V.

[5] Гл.: Пятидесятилетие Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии... С. 10.

[6] Гл.: Богданов А. П. Московская антропологическая выставка 1879 г. Т. 3, ч. 2. Описание предметов выставки. Вып. 3. Отдел краниологии. М., 1879. (Изв. Имп. о-ва любителей естествознания, антропологии и этнографии. Т. 35, ч. 2, вып. 3) [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://books.e-heritage.ru/book/10075185 (дата обращения: 08.09.2014).

[7] Гл.: Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей – ЛДГА). Ф. 716. Воп. 4. Адз. зах. 33. Арк. 5.

[8] Там жа. С. 7.

[9] Гл.: Этнографическая выставка 1867 года Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии, состоящего при Имп. Московском университете: исторический очерк устройства выставки, описание и перечень предметов, бывших на выставке, и протоколы заседаний комитета по устройству выставки. М., 1878. С. 71.

[10] ЛДГА. Ф. 716. Воп. 4. Адз. зах. 33. Арк. 40.

[11] Гл.: Всероссийская этнографическая выставка, устроенная Императорским обществом любителей естествознания... в 1867 году. М., 1867. С. 101.

[12] Гл.: Богданов А. П. Московская антропологическая выставка 1879 г.

[13] ЛДГА. Ф. 716. Воп. 4. Адз. зах. 33. Арк. 2.

[14] Там жа. С. 2.

[15] Там жа. С. 21.

[16] Там жа. С. 23.

[17] Там жа. С. 24.

[18] Там жа. С. 45.

[19] Там жа. С. 31.

[20] Там жа. С. 32.

[21] Там жа. С. 30.

[22] Там жа. С. 46.

[23] Там жа. С. 6.

[24] Гл.: Wilija i jej brzegi : pod względem hydrograficznym, historycznym, archeologicznym i etnograficznym : wydanie illustrowane / Konstanty Tyszkiewicz ; [z przedmową J. I. Kraszewskiego]. Drezno, 1871. C. XI.

[25] Гл.: ЛДГА. Ф. 716. Воп. 4. Адз. зах. 33. Арк. 10а.

[26] Гл.: Этнографическая выставка 1867 года… С. 76–77.

[27] Там жа. С. 82.

[28] Гл.: Всероссийская этнографическая выставка… С. 109.

[29] Гл.: Старая Литва : выставка в Национальном музее Литвы, 17.09.2009–30.11.2009 / Российский этнографический музей. СПб. ; Вильнюс, 2009. С. 186–188.

[30] Русская этнографическая выставка // Древности. Археологический вестник. 1867. Т. 1. С. 47.

[31] Там жа. С. 48.

Паступіў у рэдакцыю 25.08.2014.

***Ганна Аляксандраўна Карпечанка*** – саіскальнік кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў. Навуковы кіраўнік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў Ю. Л. Казакоў.

*УДК 008(476)(092):930*

*Т. С. ПУСТАХОД*

## МІХАІЛ КІРЫЛАВІЧ БАБРОЎСКІ (1784–1848): ГІСТАРЫЯГРАФІЯ І КРЫНІЦЫ

Представлен обзор историографии и источников, касающихся изучения жизни и деятельности известного белорусского ученого, священника, богослова, слависта, ориенталиста, историка, палеографа, библиофила, основателя скориноведения конца XVIII – первой половины XIX в. Михаила Кирилловича Бобровского. Выделены три периода развития историографии по данной проблеме: 1) вторая половина XIX в. – 1917 г.; 2) 1917 г. – 1980-е гг.; 3) 1990-е гг. – начало XXI в. Проанализирована как отечественная историография, так и российская и польская. Дана характеристика источников по данной проблеме, которые можно условно разделить на документальные и повествовательные. Также проанализированы материалы, которые хранятся в архивах и библиотеках Беларуси, России и Литвы.

***Ключевые слова:*** Михаил Бобровский; ученый; священник; славист; протоиерей; Виленский университет; историография; творческое наследие; исследователи; исследования; источники; рукописи; научные статьи; документы; акты; мемуары; письма; памятники старославянской письменности; архивы; славистика; библеистика.

In this article the overview of historiography and sources related research of the life and work of Michael Bobrovsky, a well-known Belarusian scientist, priest, theologian, slavist, orientalist, historian, paleographer, bibliophile, and founder of Skorina studies of the end of the XVIII – the first part of XIX century is presented. Allocated three periods of development of historiography on this issue: 1) the second part of XIX century – 1917; 2) 1917–1980s; 3) 1990s – beginning of XXI century. Analyzed as a native historiography, so and Russian and Polish. The characteristic sources on this issue, which can be divided into documentary and narrative, is given. Also, the materials, stored in archives and libraries of Belarus, Russia and Lithuania, are analyzed.

***Key words:*** Michael Bobrovsky; a scientist; a priest; a slavist; a protopriest; the Vilnius University; historiography; the creative heritage; researchers; researches; sources; manuscripts; scientific articles; documents; acts; memoirs; letters; monuments of the Old Church Slavonic writing; archives; Slavic Studies; Biblical Studies.

Міхаіл Кірылавіч Баброўскі (1784–1848) – святар, багаслоў, гісторык, палеограф, бібліяфіл, прафесар Віленскага ўніверсітэта. Ён усё сваё жыццё прысвяціў выяўленню, вывучэнню і збору помнікаў стараславянскай пісьменнасці, захаванню і зберажэнню старажытнай культуры беларусаў і ўсяго славянства. Менавіта з яго імем звязана знаходка Супрасльскага рукапісу, што дало пачатак навуковаму вывучэнню беларуска-літоўскага летапісання, вяртанне беларускай і еўрапейскай навуцы імя Ф. Скарыны, апісанне глагалічных і кірылічных кніг. Аднак творчая спадчына і асоба вучонага не прыцягнулі